ГРОДНА
№20 (572),
7 лістапада 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Марыя вядзе да Хрыста



*Пасля заснавання Гродзенскай дыяцэзіі Маці Божая Вастрабрамская была абрана галоўнай апякункай мясцовага Касцёла.*

на старонцы 2

## Урачыстасць Усіх Святых і Задушкі



grodnensis.by

*Малітоўная памяць – гэта адзінае, чым мы можам дапамагчы тым, хто адышоў з гэтага свету.*

на старонцы 4

## Свой сярод святых



catholicnews.by

*12 лістапада ўспамінаем св. Язафата Кунцэвіча, былога арцыбіскупа Полацкага і галоўнага заступніка Віцебскай дыяцэзіі.*

на старонцы 7

# “БЕДНЫЯ – ГЭТА ВАШЫ СПАДАРЫ”



Community of Sant'Egidio

*Папа Францішак падчас супольнага пасілку з бяздомнымі ў ватыканскіх пакоях*

**Charité [шарітэ]… Слова шамаціць і нібы атуляе. Нездарма ў перакладзе з французскай мовы яно азначае “міласэрнасць”. Справам міласэрнасці і служыць супольнасць сясцёр св. Вінцэнта дэ Поля – шарыткі. У Беларусі манахіні нясуць паслугу ўжо 30 гадоў. Пра сутнасць бяды і процідзеянне ёй распавядае сястра шарытка Юлія Новікава.**

на старонцы 3



pixabay.com

# ШТО ТАКОЕ СЯМЕЙНАЯ МЕДЫЯЦЫЯ І ЯК ЯНА МОЖА ДАПАМАГЧЫ СУЖЭНСТВАМ

**Паводле даных Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, у 2011 годзе Беларусь – краіна далёка не самая вялікая па колькасці насельніцтва – займала другое месца ў свеце па колькасці разводаў. На першым месцы знаходзілася Расія, на трэцім – Латвія. Па статыстыцы Белстата, у 2020 годзе ў нашай краіне зарэгістравана 50 384 шлюбы, разводаў жа – 35 144. У 2011 годзе ажанілася 86 785 пар, а развялося 38 584. Колькасць насельніцтва ў краіне ў абодва гэтых года была вельмі падобная.**

**Выходзячы з таго, што сям’я – важная частка грамадства, даныя прымушаюць задумацца. Чаму людзі, якія жадалі быць разам, кахалі адзін аднаго, разыходзяцца?**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



Касцёл павінен распазнаваць знакі часу і адносна іх выконваць свае заданні, якія выражаюць яго ўнутраную прыроду. Да галоўных задач Касцёла адносяцца прапаведаванне Божага слова, цэлебрацыя сакрамантаў і служэнне любові.

Бясспрэчным знакам часу з'яўляецца пантыфікат Папы з Буэнас-Айрэса, які, прымаючы ўпершыню за гісторыю папства імя бедняка з Асізі, указаў на прыярытэт свайго пантыфікату – пераважную любоў да бедных. Гэта адначасова ўказанне на тое, якім павінен быць прыярытэт усяго Касцёла.

Па ініцыятыве Святога Айца Францішка ва ўсім Паўсюдным Касцёле мы ўжо ў пяты раз будзем перажываць Сусветны дзень убогіх. Гэта для нас запрашэнне ніколі не выпускаць з увагі магчымасць чыніць дабро, таму што, як піша Папа ў сёлетнім пасланні на гэты дзень, "Бедныя сярод нас".

Давайце ўсе адчуем сябе ў гэты дзень даўжнікамі бедных, каб праз працягнутыя адзін да аднаго рукі мы маглі здзейсніць збавенную сустрэчу, якая ўмацуе нашу веру, зробіць любоў рэальнасцю і дазволіць мець надзею на бяспечнае крочанне па дарозе да Пана!

кс. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**9 лістапада**

***Свята гадавіны асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры біскупа Рыма.***

*З XII стагоддзя ў гэты дзень адзначаецца гадавіна асвячэння базілікі, якую імператар Канстанцін Вялікі пабудаваў на Латэране. Першапачаткова свята адзначалася толькі ў Рыме. Паколькі Латэранская базіліка з'яўляецца "маці і галавою ўсіх касцёлаў Горада і Свету", свята было распаўсюджана на ўвесь рымскі абрад у знак любові і еднасці з Пасадам Пятра, які "старшыное сувязі любові" (св. Ігнацый з Антыёхіі, Ліст да Рымлянаў).*

**10 лістапада**

***Успамін св. Льва Вялікага, Папы і доктара Касцёла.***

*Леў нарадзіўся каля 400 года. У 440 годзе быў абраны Папам. Ён настойліва змагаўся з памылкамі ў веры і імкнуўся да адзінства Касцёла. Абараняў Рым ад варварскіх нашэсцяў. Удзячныя нашчадкі надалі яму прозвішча Вялікі. Памёр 10 лістапада 461 года.*

**12 лістапада**

***Успамін св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка.***

*Язафат нарадзіўся ва Уладзіміры Валынскім каля 1580 года ў сям'і праваслаўных. Прыняў каталіцкую веру і ўступіў у ордэн базыльянаў. З часам стаў старам і арцыбіскупам Полацкім. Развіваў руплівую місіянерскую працу. Быў замучаны ў Віцебску 12 лістапада 1623 года. З'яўляецца адным з апекуноў Віцебскай дыяцэзіі.*

**14 лістапада**

***Сусветны дзень убогіх.***

*V Сусветны дзень убогіх будзе адзначацца пад дэвізам "Убогіх заўсёды маеце пры сабе". Гэтыя словы Езуса, як тлумачыць папа Францішак у сваім пасланні, паказваюць, што прысутнасць бедных не можа прывесці да звычкі, якая ператвараецца ў абыякавасць, але павінна ўключаць у безумоўнае дзяленне жыццём.*

**20 лістапада**

***Успамін св. Рафала Каліноўскага, прэзбітэра і манаха.***

*Жыццё св. Рафала Каліноўскага было поўным балючых перажыванняў. Падчас вучобы ён перажыў крызіс веры і перастаў прыступаць да сакрамантаў. Пасля многіх гадоў пошукаў перажыў навяртанне пад уплывам чытання "Споведзі" св. Аўгусціна. Пасля Студзеньскага паўстання быў высланы на 10 гадоў у Сібір. Толькі ў 42 гады ўступіў у ордэн кармэлітаў босых, дзе – ужо як святар і спаведнік – праявіў вялікае разуменне да людзей, раздзіраемых сумненнямі і сутыкаўшых супраць Бога. Памёр у арэоле святасці ў манастыры ў Вадавіцах (Польшча) у 1907 годзе.*

# МАРЫЯ ВЯДЗЕ ДА ХРЫСТА

працяг са с. 1

**Мы дзеці гэтай зямлі, на якой у пілігрымцы веры, а таксама ў штодзённых сямейных ці прафесійных праблемах нас суправаджае Найсвяцейшая Панна Марыя – Маці Міласэрнасці, таксама вядомая як Маці Вастрабрамская.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




*Група вернікаў з Ліды падчас пілігрымкі ў Вільню, 2016 г.*

Ужо столькі пакаленняў Яна суправаджае людзей гэтай зямлі, суправаджае наш лёс і жыццёвыя шляхі, а таксама вандроўкі па дарогах свету. І ў цяперашняй складанай сітуацыі, калі многія людзі па розных прычынах разбягаюцца па свеце, часта новае жыццё яны пачынаюць будаваць з Ёю – Марыяй Вастрабрамскай, якая з'яўляецца для іх знакам надзеі. Марыя – гэта вялікі дар неба, дзякуючы якому мы адчуваем сябе ў бяспецы таму, што Яна была ўнікальным і непаўторным чынам адорана міласэрнасцю і ласкай, што дала свету Езуса, у якім мы бачым міласэрны твар Айца. Марыя з'яўляецца Маці Міласэрнасці яшчэ і таму, што нястомна заступаецца за нас, сваіх усынаўлёных дзяцей, для кожнага просячы ў свайго Сына патрэбныя ласкі і дары. Просячы найвялікшую ласку міласэрнасці, якою Бог можа адарыць кожнага чалавека.

Клапоцячыся пра нас, і пра паўсядзённыя зямныя справы. Як Маці яна жадае лепшага для сваіх дзяцей – нашага збаўлення. Марыя прагне, каб мы скарысталіся справай Яе Сына Езуса Хрыста. Таму прамаўляе да кожнага: "Няхай Езус будзе лякарствам ад вашых праблем! Толькі Ён можа ратаваць вас! Толькі Ён можа вам дапамагчы!".

**Выява Маці Божай Вастрабрамскай паказвае, колькі намаганняў трэба прыкласці, каб не страціць Марыю на сцежках свайго жыцця. Ад Яе мы можам вучыцца многім каштоўнасцям. Гледзячы на дзве кароны над галавой Вастрабрамскай Панны, успамінаем, што чалавек створаны для Бога, для неба і для вечнасці.**

З клопату аб нашым збаўленні Марыя не выконвае кожную людскую просьбу. Яна заўсёды выслухвае нас, але не заўсёды дае тое, пра што просім. Як любая мудрая маці, якая не дасць дзецям усяго. Але Яна робіць гэта для нашага дабра. Часам людзі скардзяцца: "Я столькі прасіў, маліўся Ружанцам, хадзіў на навэнны – і нічога! Я не веру ў дапамогу Марыі!". Але гэты бунт ці шкадаванне паходзяць ад неразумення, бо Марыя, перш за ўсё, жадае нашага збаўлення і ўсімі сіламі імкнецца да яго. Яна робіць усё, каб мы прынялі, што мэта нашага жыцця – збаўленне, а не толькі лепшае здароўе ці самаадчуванне, або вырашэнне нейкай цяжкай і безнадзейнай справы.

Часам Багародзіца дапускае цярпенне дзеля дабра чалавека. Калі ў Фаціме Люцыя папрасіла Марыю ацаліць многіх хворых, Яна адказала: "Некаторых Я вылечу, а некаторых – не. Хай яны спачатку пераменяцца, няхай папросяць прабачэння за свае грахі".

**Урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, прыпадае на 16 лістапада.**

Мы павінны памятаць, што неаднаразова пакутуем з-за сябе, таму што сапсавалі сваё жыццё. Часта ў такіх сітуацыях няма адзінага рашэння. Патрэбна дапамога Марыі і час, каб уклаcці ўсё назад.

Перажываючы ўрачыстасць галоўнай апякункі Гродзенскай дыяцэзіі, просьма Марыю, Маці Міласэрнасці, "якая мае трон у Вострай Браме", каб прывяла кожнага з нас да Хрыста, у якім наша збаўленне!

і спакоі, асабліва калі ўсклікаем з простай верай і мовай нашага сэрца: "Слаўся, Каралева, Маці Міласэрнасці, жыццё, уцеха і надзея наша, слаўся".

Мы называем Марыю Маці Міласэрнасці не толькі Марыя выконвае запавет Езуса Хрыста. І гэтая праўда ўтрымліваецца ў тытуле Маці Міласэрнасці. Марыя, перш за ўсё, дапамагае нам ісці шляхам веры, дапамагае быць паслухмянымі волі Айца. Аднак не забываецца

# “БЕДНЫЯ – ГЭТА ВАШЫ СПАДАРЫ”

працяг са с. 1

Ангеліна Марцішэўская

***– На вуліцах нашай краіны чыста і акуратна, спаткаць якога-небудзь валацугу таксама даводзіцца нячаста. Ці адлюстроўвае гэта сапраўдны стан рэчаў адносна ўбогіх у Беларусі? Які маштаб мае праблема людзей, што знаходзяцца ў патрэбе?***

– Згодна. Можна прайсціся па Мінску і нікога не заўважыць. Часам сустрэнеш бяздомнага ў цэнтры горада ці на вакзале. Ведаю, што ў сталіцы ёсць начлежка, дзе чалавек без жылля можа правесці ноч, і сталовая для бедных. Апошнюю, дарэчы, утрымліваюць пратэстанты. Аднак ці арганізавана на дзяржаўным узроўні нейкая дапамога для чалавека, каб ён мог выйсці са складанага становішча? Хіба не.

Разам з тым, калі паехаць у вёскі, адразу бачна, дзе хаваюцца ці хаваюць убогіх. У калгасах, якія развальваюцца, людзі часта не маюць сацыяльных навыкаў, а бяду топяць у алкаголі. Парадокс у тым, што ў гэтых людзей ёсць дах над галавой, але больш няма амаль нічога.

***– У інтэрв’ю ў “Ave Maria” ў 2017 годзе сёстры шарыткі адзначалі, што ва ўмовах Беларусі Кангрэгацыі складана адкрываць установы дапамогі патрабуючым. У чым асноўныя цяжкасці?***

– На сённяшні момант у Беларусі зарэгістравана толькі дзве манаскія кангрэгацыі. Мы ў іх склад не ўваходзім. Таму асноўныя цяжкасці звязаны з юрыдычнымі пытаннямі. Як у вачах дзяржавы мы можам адкрыць шпіталь ці дом састарэлых? Як фізічная асоба – не. Як манаская супольнасць – не. Фінансавая праблема таксама існуе: з Захаду грошы не заўсёды лёгка прымаць, сваімі сіламі збіраць яшчэ больш складана. Трэба, каб і сясцёр было болей. А нас у Беларусі служыць усяго 9 манахінь – па тры на кожную супольнасць: у Шуміліна, Брэсце і Мінску. Таму наша форма служэння – наведванне бедных і самотных у іх дамах.

Але, зразумела, мары ёсць. Часам ідзеш міма закінутага будынка і думаеш: з яго атрымаўся б добры дом для сірот ці прытулак для бяздомных…

***– Распавядзіце, калі ласка, якія ахоп працы на дадзены момант маюць сёстры шарыткі ў Беларусі?***

– У кожнай з трох супольнасцей арганізаваны догляд за ўсімі, каму патрэбна дапамога. Для старых гатуем і прыбіраемся. Ляжачых хворых даглядаем цалкам. Катэхізуем дзяцей, а ў вёсках на катэхезу збіраюцца ўсе мясцовыя дзеці незалежна ад веравызнання. Гэта хлопцы і дзяўчаты з бедных сем’яў, якія не атрымліваюць належнага клопату дома. У сясцёр яны заўсёды знойдуць, што з’есці, пачуюць цёплае слова, адпачнуць на “Канікулах з Богам”.

Я працую ў мінскім шпіталі як медсястра, апошнім часам служу ў кавідным аддзеле. Яшчэ адна з нашых сясцёр служыць у “Карытас”, цяпер удзельнічае ў праекце “Табіта”, створаным, каб адказваць на абсалютна ўсе віды запытаў аб дапамозе.

Зразумела, усім, пра каго мы клапоцімся матэрыяльна, нясём святло Хрыста.

***– Догляд – шырокае паняцце. Наблізьце, калі ласка, канкрэтныя дзеянні па дапамозе, каб убачыць у гэтым і памагатага, і падапечнага.***

– Калі даглядаем чалавека немачнага, дбаем, каб ён быў сухі і чысты, як немаўля. Мыем твар, галаву, цела, мяняем падгузнік. Прыбіраемся, ходзім у магазін за прадуктамі, гатуем з дапамогай блэндара, каб падапечным прасцей засвойвалася ежа. Пасля толькі можна і пагаварыць. Калі католікі – памаліцца разам.

Часта здараецца, калі людзі сталыя, могуць і накрычаць, патрабаваць рабіць хатнюю працу на іншы, звыклы ім лад. У такіх выпадках узгадваюцца словы св. Вінцэнта дэ Поля “Бедныя – гэта вашы спадары”, і пачынаеш перавучвацца, робіш, як патрабуюць. Па-чалавечы гэта складана. А калі па-божаму, разумееш: чым больш чалавек грубы, тым больш любові яму трэба аказваць. Усе-такі неабходна памятаць, Каго мы ім нясём. Я думаю, у такіх выпадках Госпад дае ласку пакоры.

***– Ці маглі б Вы ўзгадаць нейкі звязаны з падапечнымі выпадак, які закрануў Ваша сэрца?***

– У Шуміліна быў мужчына – Іван Іваныч, адзіны сярод спісу сацыяльнага цэнтра, які пагадзіўся прыняць нашу дапамогу. Ён меў рассеяны склероз, мышцы паступова атрафіраваліся, пасля мог варушыць толькі галавой. Даглядаць Івана Іваныча для кожнай з нас было як прайсці сканіраванне на чалавечнасць. Ён быў вельмі патрабавальны. То не той канал на тэлевізары ўключылі, то падушку іначай трэба пакласці. Калі што не так, адразу пагражаў, што будзе мацюкацца. Аднак не мацюкаўся, лаяў больш лагоднымі словамі. Адначасова кожную з нас любіў асабліва, па-рознаму.

Усё жыццё ён быў камуністам, а перад смерцю папрасіў споведзі. Цешуся, што мы змаглі данесці да яго галоўнае, а ён, у сваю чаргу, зрабіў шмат для фармацыі сясцёр.

***– Калі чалавек мае шчымлівае сэрца, хоча дапамагаць патрабуючым, з чаго пачаць, як не нашкодзіць?***

– Перш за ўсё, каб штосьці даць, трэба мець. Развіваць духоўную напоўненасць праз малітву. Затым зрабіць некалькі простых крокаў. Расплюшчыць вочы і паглядзець навокал – можа, дапамога патрэбна самотнаму суседу або нават блізкаму чалавеку. Калі не, распытаць адмысловыя ўстановы – сталовыя для бяздомных, хоспісы, дзіцячыя дамы і дамы састарэлых. Валанцёрская дапамога можа быць якой заўгодна: пачытаць раз на тыдзень Біблію бабулі, паслужыць кіроўцам для інваліда і г. д.

***– Неаднойчы я назірала, што з-пад касцёла праганялі жабракоў, каб тыя не прасілі там міласціну. Хтосьці з вернікаў успрымае гэта нармальна, хтосьці абураўся. Як думаеце, чаму святары прымаюць такія рашэнні і ці правільна гэта?***

– Збоку сапраўды можа выглядаць непрыгожа. Аднак часта гэтыя людзі не для сябе просяць грошы, а трапляюць у палон злачынцаў. Іншым проста камфортна жабраваць – магчыма, пенсію прапіваюць, а збіраюць на чарговую порцыю. І святары могуць гэта разумець або нават ведаць. А можа, трэба паставіць пытанне іначай: чаму ў дзяржаве няма людзей, якія б маглі накіраваць такіх асоб куды трэба?

Да таго ж і нам неабходна ўважліва ставіцца да міласціны, не ўспрымаць яе як адкупленне. Лёгка кінуць капейку, цяжка дапамагчы чалавеку разабрацца ў яго праблеме.

***– У харызму Вашай супольнасці ўпісана адказваць на розныя формы сучаснага ўбоства. Якія формы яно прыняло сёння?***

– Мы стараемся расчытваць знакі часу. Сапраўдным крыкам нашай супольнасці было жаданне быць у экіпе тых, хто стараецца весці барацьбу з гандлем людзьмі. Чарговая праблема – гэта крызіс мігрантаў. І сёстры, наколькі магчыма, бяруць на сябе клопат пра тых, хто плыве ў лодцы ад адчаю да невядомага. Землятрус на Гаіці – сёстры накіроўваюцца дапамагаць пацярпелым. Так было і ў часы св. Вінцэнта дэ Поля: ішла вайна, і сёстры даглядалі жаўнераў. Інакш кажучы, мы ідзём туды, дзе бачым бяду – менавіта гэта і азначае наш чацвёрты шлюб – служэнне бедным.

Калі зірнуць яшчэ шырэй, бедны – гэта не толькі той, хто хоча есці. У нашай краіне чалавека адарвала ад яго каранёў камуністычная ідэалогія і бязвер’е, зрабіла яго бедным – цьмяным, паніклым.

А з хрысціянствам усё можа быць інакш. Ад пазбаўлення ад страху смерці да вырашэння пытанняў эканамічнай раўнавагі праз ахвяраванне дзесяціны. *(Дзесяціна – старазапаветная канцэпцыя, якая прадстаўляе закон, згодна з якім ізраільцяне павінны былі даваць ад усяго, што яны зараблялі ці вырошчвалі, 10% на храм – заўв. аўт).*


С. Юлія таксама працуе медыцынскай сястрой у 1-ай гарадской клінічнай бальніцы ў Мінску


14 лістапада адзначаецца Сусветны дзень убогіх

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### “Click to pray” дапаможа Касцёлу з’яднацца ў малітве за Сінод

У Ватыкане прайшла прэзентацыя абноўленай анлайн-платформы “Click to pray”, якая, паводле задумкі яе распрацоўшчыкаў, дапаможа вернікам з’яднацца з усім Касцёлам у малітве за Сінод Біскупаў.

Платформа “Click to pray” была створана Сусветнай сеткай малітвы ў інтэнцыях Папы ў 2016 годзе і на сёння налічвае больш за 2,5 млн карыстальнікаў ва ўсім свеце. Яна даступна на вэб-сайце www.clicktopray.org, а таксама ў якасці аднайменных аплетаў для камунікацыйных прыстасаванняў з сістэмай Android і iOS. На платформе размяшчаюцца малітоўныя інтэнцыі Святога Айца на кожны месяц і даецца магчымасць папрасіць аб малітве іншых карыстальнікаў.

### Пантыфік дапамог выхаванцам дзіцячага прытулку ў Конга

Папа накіраваў медыкаменты для дзяцей са спадчынным захворваннем крыві, якія з’яўляюцца выхаванцамі прытулку “Foyer Nazareth” у сталіцы Рэспублікі Конга.

Дапамога была перададзена Папскім элемазінарыем кардыналам Конрадам Краеўскім праз Апостальскую нунцыятуру ў гэтай афрыканскай краіне.

У адказ 22 выхаванцы прытулку ў Бразавілі падпісалі ліст са словамі ўдзячнасці Святому Айцу. Як адзначаецца ў гэтым кароткім пасланні, жэст Папы паказвае, што назва энцыклікі “Fratelli tutti” з’яўляецца праграмай працы і місіі, якую ён абраў у імя Касцёла і Хрыста.

### Святы Пасад выдаў дэкрэт аб перакладзе літургічных кніг

У Ватыкане быў падрыхтаваны дакумент, які тлумачыць парадак рэалізацыі змен у Кодэксе кананічнага права, якія тычацца перакладу літургічных кніг на мясцовыя мовы.

Дэкрэт “Postquam Summus Pontifex”, абнародаваны 22 кастрычніка 2021 года Кангрэгацыяй Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў, пакліканы дапамагчы епіскапатам у выкананні гэтай задачы.

Дакумент тлумачыць і інтэрпрэтуе нормы і працэдуры адносна перакладу літургічных кніг і іх адаптацыі, а таксама ўказвае на некаторыя змены, якія павінны быць унесены ў новыя выданні ў адпаведнасці з 40-ым пунктам канстытуцыі II Ватыканскага Сабору “Sacrosanctum Concilium”.

У сваю чаргу Кангрэгацыя адказвае за разгляд апаптацый, ухваленых епіскапатамі, і пацвярджэнне зробленых імі перакладаў.

### Малітоўныя інтэнцыі на лістапад

**паўсюдная**

Молімся, каб асобы, што перажываюць дэпрэсію ці знясіленне, ва ўсіх знаходзілі падтрымку і святло, якія адкрываюць на жыццё.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў дабрадзеяў і ахвяравальнікаў Касцёла.

# УРАЧЫСТАСЦЬ УСІХ СВЯТЫХ І ЗАДУШКІ


Біскуп Кашкевіч узначальвае св. Імшу на францішканскіх могілках у Гродне

працяг са с. 1

**Традыцыйна ў першыя дні лістапада вернікі наведалі могілкі, каб паманліцца за сваіх памерлых блізкіх. Яны таксама мелі магчымасць атрымаць поўны адпуст, што з'яўляецца адным з самых каштоўных дароў, якія жывы чалавек можа ахвяраваць за памерлых.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

На могілках прайшлі св. Імшы, у якіх прыняла ўдзел вялікая колькасць вернікаў. Людзі прасілі ў Бога ласкі вечнага шчасця для сваіх родных, якія ўжо адышлі ў вечнасць. Св. Імшу за ўсіх памерлых нашай дыяцэзіі на францішканскіх могілках у Гродне ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. На Гродзенскіх гарадскіх могілках "Азот" Эўхарыстыю цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Напярэдадні гэтых асаблівых дзён у многіх парафіях для дзяцей і моладзі былі арганізаваны Балы ўсіх святых. Падобныя мерапрыемствы з'яўляюцца выразам традыцыі і веры, звязанай з захапленнем святымі і наданнем ім належнай павагі і ўшанавання. Гэта таксама адказ Касцёла на амерыканскі Хэлоўін, які набывае ўсё большую папулярнасць у сучаснай культуры.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**КАНАДА.** Міністр адукацыі краіны абвясціў, што ўрокі этыкі і рэлігійнай культуры будуць заменены новым прадметам – "Культура і ідэнтычнасць Квебека". Супольнасць каталіцкіх біскупаў Квебека раскрытыкавала запланаваную змену і выказала меркаванне, што гэта непазбежна прывядзе да большага няведання рэлігійных пытанняў, якое, у сваю чаргу, можа выклікаць рызыку ўзмацнення забабонаў і павелічэння сацыяльнай палярызацыі, а не "дапамагчы вучням пазнаваць адзін аднаго і імкнуцца да агульнага дабра". Біскупы просяць улады знайсці месца для рэлігійнай культуры ў новым прадмеце, праграма якога яшчэ не распрацавана. Змена павінна ўступіць у сілу восенню наступнага года.

**РАСІЯ.** У краіне з'явіўся першы каталіцкі храм, прысвечаны св. Яну Паўлу ІІ. Касцёл быў кансэкраваны ў горадзе Тальяці на рацэ Волзе. Тальяці налічвае каля 1 мільёна жыхароў і знаходзіцца прыкладна ў 1 000 км ад Масквы. Урачыстую св. Імшу ўзначаліў ардынарый каталіцкай дыяцэзіі св. Клімента ў Саратаве біскуп Клеменс Пікель. Прысутнічаў таксама прадстаўнік Рускай Праваслаўнай Царквы. Імша адбылася з удзелам вялікай колькасці вернікаў і прадстаўнікоў польскай супольнасці. Урачыстасць суправаджала прысвечаная постаці польскага Папы выстава, перададзеная Цэнтрам думкі Яна Паўла ІІ у Варшаве.

**ВАТЫКАН.** Ватыкан абвясціў, што сёлетняя шопка на Божае Нараджэнне прыбудзе з Перу. Гэта першы раз, калі яе дастаўяць з такой далёкай краіны. А калядная елка будзе паходзіць з Даламітаў у італьянскім Трэнта. Губернатар Ватыкана паведаміў, што ў шопцы размесціцца 30 фігур, зробленых, між іншым, з керамікі і дрэва. Шопка з Перу будзе нагадваць пра двухсотгоддзе незалежнасці краіны і адсылаць да жыцця народаў Анд. Постацям Трох Каралёў будзе спадарожнічаць лама. Акрамя таго, там з'явяцца фігуркі іншых жывёл, распаўсюджаных у гэтай краіне: альпакі, андскія вікуньі і кондары. Цырымонія адкрыцця шопкі і запальвання агеньчыкаў на елцы запланавана на 10 снежня.

**ФІЛІПІНЫ.** Трое каталіцкіх святароў у краіне былі адхілены ад абавязкаў пасля таго, як заявілі аб намеры балаціравацца на дзяржаўныя пасады на выбарах у наступным годзе. Атрыманыя імі дэкрэты таксама азначаюць, што святары былі пазбаўлены сваіх функцый у розных касцёльных установах, а кожны з іх да гэтага часу кіраваў службамі гуманітарнай дапамогі "Карытас" у сваіх дыяцэзіях. Кс. Альпарс прапанаваў сваю кандыдатуру на месца ў муніцыпальным савеце правінцыі Альбай. Кс. Луэга заявіў, што пакінуў святарства, каб падаць заяўку на пасаду мэра ў Мабіні, горадзе ў правінцыі Давао. Кс. Пітапіт "вырашыў адмовіцца ад святарскай службы па асабістых прычынах".

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПАРАФІЯ ВЯЛІКАЯ РАГОЗНІЦА

*Андрэй Вашкевіч*

Рагоз – распаўсюджаная амаль ва ўсіх славянскіх мовах назва балотнай расліны, якая раней шырока выкарыстоўвалася ў гаспадарцы. З рагозу плятуць кошыкі, вяроўкі, робяць грубую тканіну. Яго нават можна ўжываць у ежу. Зразумела, што паселішчы, размешчаныя на берагах забалочаных невялікіх рэчак, часта атрымлівалі назву Рагозніца ці Рагожніца.

Паселішча ўпершыню згадваецца ў пачатку XVI стагоддзя як каралеўскі маёнтак, якім паперамена валодалі розныя каралеўскія баяры. У сярэдзіне XVIII стагоддзя Рагозніца пераходзіць у валоданне рода Сухадольскіх – багатай шляхты з Ваўкавышчыны. Казімір Сухадольскі нават удзельнічаў у знакамітым апошнім сейме Рэчы Паспалітай у Гродне, які ў 1793 годзе прыняў рашэнне пра другі раздзел дзяржавы. А яго ўнук Януарый Сухадольскі стаў вядомым польскім мастаком-баталістам. Пасля паўстання 1863 года Рагозніца была канфіскавана ў тагачасных уладальнікаў Шабанскіх, паколькі тыя ўдзельнічалі ў змаганні супраць царызма, і перададзена расійскім чыноўнікам. Толькі ў 1906 годзе яе зноў выкупіў мясцовы шляхціц Оскар Мейштовіч. Яму ўдалося гэта зрабіць, сказаўшы царскім уладам, што яго род нібыта не польскі, а паходзіць са старой літоўскай шляхты.

Увесь гэты час Рагозніца адносілася да недалёкага касцёла ў Крамяніцы. Аднак у 1924 годзе мясцовыя жыхары звярнуліся да віленскага біскупа з просьбай стварыць самастойную парафію. Яны матывавалі сваё жаданне тым, што крамяніцкі касцёл вельмі стары і разбудаваць яго нельга, а таму парафію трэба падзяліць напалову, тым больш, што Мейштовічы (асабліва Флора, жонка Оскара) гатовыя былі спансіраваць будаўніцтва святыні і даць парафіі некалькі гектараў добрай зямлі. Дзякуючы біскупу Юрыю Матулевічу справа стварэння парафіі была вырашана станоўча ў пачатку 1925 года, аднак вызначэнне яе межаў цягнулася амаль да канца 1927 года. У выніку парафія ў Вялікай Рагозніцы стала адной з найбольшых у рэгіёне і налічвала звыш 4 тысяч парафіян.


Знешні выгляд парафіяльнага касцёла ў Рагозніцы

Касцёл у Рагозніцы атрымаўся незвычайны. Будавалі яго два гады па праекце архітэктара Рамуальда Гута з палявых камянёў цёмнага і руджавага колераў, якія збіралі мясцовыя сяляне. Камяні старанна апрацоўвалі, каб сцены святыні былі амаль ідэальна роўныя. Касцёл атрымаўся просты чатырохкутны з магутнай простай званіцай і закрыстыяй. Гэтая грандыёзная канструкцыя робіць асаблівае ўражанне на фоне мясцовасці, і з яе далёка відаць амаль усю парафію. Касцёл асвяцілі ў кастрычніку 1928 года ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі.

Лёс галоўнага фундатара святыні Оскара Мейштовіча склаўся трагічна. Ён мусіў быць пахаваны ў склепе касцёла, на што атрымаў дазвол віленскай курыі, аднак у верасні 1939 года быў арыштаваны і забіты разам з ксяндзом і праваслаўным бацюшкам з Зэльвы.

Пасля вайны касцёл з перапынкамі дзейнічаў да канца 1950-ых гадоў, але ў хрушчоўскія часы, калі барацьба з рэлігіяй абвастрылася, святыню закрылі канчаткова, фармальна ліквідаваўшы парафію. Аднак людзі працягвалі наведваць яе, супольна маліліся, палілі вечную лампаду. У 1989 годзе касцёл у Вялікай Рагозніцы быў вернуты католікам. Сёння гэта адна з самых заўважных і арыгінальна пабудаваных святынь Гродзенскай дыяцэзіі.



# ЖОНКА ДАЛЬНАБОЙШЧЫКА: "БЫЦЬ ШЧАСЛІВАЙ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА ШТО"

**У апошнія гады Еўрасаюз пачаў выдаваць дальнабойшчыкам з па-за зоны Шэнген у пяць разоў больш дазволаў на працу. Калі ў 2014 годзе іх колькасць вагалася ў раёне 40 тысяч, то сёння перавышае 200 тысяч. Найбольш кіроўцаў прыязджае з Украіны і Беларусі, і з'ява толькі набірае абароты.**

Арцём Ткачук

У нашым кантэксце словазлучэнне "пайшоў на фуру" асацыіруецца са зменай працы і паляпшэннем матэрыяльнага стану сям'і. Разам з гэтым узгадваюцца прыгожыя гісторыі пра набыццё жылля і добрага аўтамабіля. Аднак радзей гаворыцца пра кошт, які плацяць гэтыя сем'і за такую працу. Як жывуць сужэнствы дальнабойшчыкаў і якія змены перажываюць у сваіх адносінах? Сёння пра гэта размаўляем з Ірынай – маці траіх дзяцей і жонкай кіроўцы фуры.

*– Ірына, колькі гадоў Вы ў шлюбе?*

– 20 кастрычніка было ўжо 14 гадоў.

*– Памятаеце першую сустрэчу з мужам?*

– Ну канешне! Мы пазнаёміліся на вяселлі. Многія сяброўкі запрашалі мяне быць сведкай на іх шлюбе. Па шчырасці, я заўсёды марыла прыйсці на вяселле і сустрэць свайго прынца. Заўсёды рыхтавалася і знешне, і ўнутрана. Але кожны раз здараўся нейкі аблом. Тут у чарговы раз мяне запрасілі стаць сведкай. Вяселле мелася быць у вузкім коле, таму асаблівых надзей на прынца не было. Але так сталася, што кіроўцам вясельнага аўто быў сябар жаніха Сяргей. Гэта было, можна сказаць, каханне з першага позірку. Наперадзе нас чакала яшчэ шмат перашкод, але каханне ўсё перамагло.

*– Колькі гадоў Ваш муж ужо працуе дальнабойшчыкам?*

– Увогуле кіроўцам ён быў з маладосці, але калі мы пазнаёміліся, Сяргей шукаў іншыя шляхі. Спрабаваў сябе ў гандлі, аднак з часам яго бізнес пайшоў на спад, і 12 гадоў таму ён вярнуўся ў дальнабойшчыкі.

*– Як доўга яго не бывае дома?*

– Быў перыяд, калі ён працаваў 3-4 дні, а затым некалькі дзён адпачываў дома. Апошнія некалькі гадоў Сяргей праводзіў у рэйсе прыкладна па 1,5 месяцы. Калі пачаўся каранавірус, яго не было дома поўгода, пазней 4 месяцы. Апошні рэйс заняў 2 месяцы. Праз тыдзень павінен вярнуцца.

*– Праца на фуры была яго прафесіяй мары ці так склалася жыццё?*

– У маладосці гэта была мара, так. Сяргей заўсёды хацеў убачыць іншыя краіны, споўніць нейкія мары. Цяпер жа гэта жыццёвая праўда. Ён з задавальненнем змяніў бы працу, калі б знайшоў вартую замену з добрым заробкам у Беларусі. Ён казаў пра гэта ўжо даўно. Яму складана, за тыдзень да чарговага ад'езду ён пачынае казаць: "Як я не хачу ехаць", "Я б застаўся", "Як мне добра з вамі"...

*– Як хутка Вы прызвычаіліся да таго, што муж знаходзіцца на адлегласці? Ці можна да гэтага ўвогуле прызвычаіцца?*

– На пачатку сямейнага жыцця я спрабавала казаць, што мне цяжка, калі ён з'язджае, прапанавала змяніць працу. Аднак Сяргей паўтараў, што гэта трэба прыняць, што няма іншай працы на дадзены момант. Ён сапраўды спрабаваў штосьці іншае. Пяць гадоў таму муж перавучыўся на печніка, пасля два сезоны гэтым займаўся. Аднак не атрымалася, не змог раскруціцца. Пераканаць яго паспрабаваць яшчэ я не змагла. Таму вырашыла вучыцца быць шчаслівай нягледзячы ні на што.

*– Чаго болей у будаванні сужэнскіх адносін на адлегласці: рамантычнасці ці складанасцей?*

– Напэўна, хапае і таго, і таго. Напрыклад, узгадваецца гадавіна нашага вяселля. Мы рэдка праводзім яе разам. Калі Сяргей прыязджае, мы кудысьці ідзём, святкуем. Дык вось, на адну гадавіну ён мне напісаў: "Я цябе кахаю, і я з табой шчаслівы". Ведаеце, і мне было гэтага дастаткова. Я разумею, што чалавек таксама стамляецца, што ён працуе і не можа думаць увесь час пра мяне, таму што абавязаны думаць пра штодзённы хлеб, дзякуючы чаму я магу ўкладвацца ў сваё шчасце. Можа быць, гэта не пра рамантыку. У любым выпадку, было б жаданне...

Галоўнае – не мець чаканняў, што іншая асоба штосьці камусьці павінна. Тады ты радуешся нават нейкай кветачцы ў Вайберы. Гэта таксама для мяне важна. Калі я адчуваю, што павінна штосьці яму сказаць, я таксама гэта кажу. Таму без чаканняў, але за шчырасць.

*– У большасці існуе перакананне, што шчаслівыя сужэнцы павінны быць увесь час разам. Аднак у Вашым выпадку частая адсутнасць мужа не азначае, што шчасця няма?*

– Так. А як інакш? Я люблю слухаць розных псіхолагаў. Адзін з іх сказаў, што над 90% свайго шчасця жанчына працуе сама, і толькі 10% залежаць ад чагосьці знешняга. Таму над шчасцем трэба працаваць самастойна. Нягледзячы ні на што ці дзякуючы ўсяму.

*– Кажуць, жанчыне неабходна пастаянна ўпэўнівацца ў любові свайго мужчыны. Таму заўсёды ёсць патрэба ў чулых словах і жэстах. Як гэта запаўняецца на адлегласці?*

– Калі я адчуваю, што падаю на дно калодзежа, тэлефаную мужу і кажу: "Сяргей, скажы мне штонебудзь добрае". Ён часам аджартоўваецца: "Іра, я не магу вось так адразу". Аднак пазней абавязкова скажа. Увогуле, я чую ад яго неабходныя словы. Часам прашу прытуліць мяне і рэальна адчуваю гэта, мне робіцца лягчэй. Калі ж становіцца асабліва цяжка і я не магу размаўляць, таму што проста накрываюць розныя пачуцці, прашу маліцца за мяне. І тады адчуваю, як праз нейкі час мне робіцца лягчэй.

Жанчыне важна прасіць, дзе б яна ні была – побач ці далёка. Проста казаць, што ёй трэба. Многія жанчыны лічаць, што ўсе павінны здагадацца, чаго яны хочуць, хоць нярэдка мы і самі не ведаем, што нам трэба. Таму, ужо крыху разумеючы псіхалогію мужчын, я пачала агучваць пры Сяргею свае жаданні і паказваць шчырую радасць, калі ён іх выконвае. А яшчэ вельмі важная ўдзячнасць за простыя рэчы, асабліва ў тыя моманты, калі хочацца абурацца і ныць.

Увогуле, муж падтрымлівае мяне ў розных маіх пачынаннях, умее пажартаваць, пачаў прасіць прабачэння. "Добра, я не вінаваты, але прабач мяне", – кажа ён *(смяецца – заўв. аўт.)*.

*– Вельмі важным паміж мужам і жонкай з'яўляецца фізічны кантакт, сексуальныя адносіны. Захаванне шлюбнай вернасці на адлегласці патрабуе працяглага ўстрымання. Як яно адбіваецца на кожным паасобку і на ўзаемаадносінах?*



– Уявіце: мужа не бывае дома па 4 месяцы, а пазней ён вяртаецца. Гэта новы мядовы месяц *(смяецца – заўв. аўт.)*.

*– Я чую ў гэтых словах шмат радасці.*

– Так, асабліва калі ведаеш, што да яго прыезду застаецца тыдзень. Знаходзішся ў прадчуванні гэтай сустрэчы. Іншая справа, калі ён толькі-толькі ад'ехаў і наперадзе яшчэ месяцы чакання.

Канешне, увогуле складана. Аднак калі ёсць каханне, ты ведаеш, што гэта твой чалавек, то... Сяргей кажа: "Іра, паглядзі, у нас страсць не сціхае, таму што маем перапынкі; гэта нам на карысць". Агульны сэнс такі.

Вядома, усё гэта ўдасца ўбачыць, шукаючы плюсы. Можна, канешне, шукаць і мінусы, але тады ў іх закапаешся. Калі шукаць плюсы і проста прымаць гэтую сітуацыю, тады прасцей. Для прыкладу, яго два месяцы не будзе, але пазней месяц ён будзе дома. Гэта як водпуск. Вядома, калі Сяргей прыязджае, на яго звальваюцца ўсе гаспадарчыя і бытавыя справы, аднак тым не менш.

*– Выходзіць, вельмі важна ў гэтай сітуацыі не канцэнтравацца на негатыве і пастаянна шукаць пазітыўныя моманты?*

– Так, а што рабіць? Я па жыцці магу паплакаць, паплакаць, а пазней стараюся шукаць, тое, што дапаможа радавацца жыццю. Гэта мая пазіцыя.

*– Чым Вы сябе займаеце, калі маеце вольны час? Маю на ўвазе супольны адпачынак на адлегласці.*

– Не, такога няма. Але гэта добрая ідэя, дзякуй. Калі ёсць настрой і сілы, то падчас вячэрняй малітвы з дочкамі я званю мужу і мы молімся разам.

*– А як, дарэчы, з супольнай малітвай? Ёсць, можа, нейкія асаблівыя формы?*

– Увечары мы сядаем за стол, запальваем свечкі. З апошняга – мае дзяўчаты спалілі ўсе свечкі дома і дзесяць карабкоў запалак. Падчас малітвы яны так гуляюць, і я ім гэта дазваляю, каб малітва запомнілася. Для іх малітва – гэта шмат свечак і падзяка за ўсё важнае ды цікавае, што адбылося за дзень.

*– І муж да Вас далучаецца?*

– Так. Не часта, але калі далучаецца, то ўдзельнічае і дзякуе гэтаксама, як і ўсе.

*– А што з трывогай, калі сужэнец далёка і надоўга? Як з ёй змагацца?*

– Малітва і давер Богу. Ты разумееш, што нічога не можаш зрабіць. Гэтыя страхі можна толькі накручваць, але ў такім выпадку чалавек робіцца проста неадэкватным, а гэта ўплывае на людзей побач, асабліва на дзяцей. Таму толькі малітва і давер Богу.

*– Існуе меркаванне, што адлегласць узмацняе каханне. Пагодзіцеся?*

– Калі гэта сапраўднае каханне, то яго ўсё ўзмацняе. Я б так сказала.

# ШТО ТАКОЕ СЯМЕЙНАЯ МЕДЫЯЦЫЯ І ЯК ЯНА МОЖА ДАПАМАГЧЫ СУЖЭНСТВАМ

працяг са с. 1

**На думку медыятара Мікалая Хацяновіча, які правёў некалькі соцень сямейных медыяцый, пары часцей за ўсё заканчваюць свае адносіны не з-за асабістых якасцей аднаго з бакоў, а з-за асобных сітуацый, пасля якіх другая асоба не ведае, як далей заставацца разам.**

**Мікалай Хацяновіч у сферы сямейнай медыяцыі працуе ад пачатку існавання гэтай галіны ў Беларусі. Двойчы – у 2016 і 2017 гадах – мінскі Цэнтр медыяцыі і перамоў прызнаваў яго Медыятарам года.**

**Эксперт распавёў, як і чым медыятар можа дапамагчы ў вырашэнні спрэчак, чаму парам цяжка будаваць зносіны, а таксама падзяліўся некалькімі каштоўнымі лайфхакамі па будаванні неканфліктнай камунікацыі.**



Кацярына Паўлоўская

### ШТО ТАКОЕ СЯМЕЙНАЯ МЕДЫЯЦЫЯ?

Закон "Аб медыяцыі" быў прыняты ў Беларусі ў 2013 годзе, таму прафесія медыятара, у тым сямейнага, даволі маладая. Яго роля – дапамагчы вырашыць спрэчку, якая ўзнікла паміж бакамі падчас шлюбаразводнага працэсу альбо ў выніку яго. Да гэтай катэгорыі адносяцца таксама спадчынныя спрэчкі, спрэчкі паміж бакамі, якія знаходзяцца ў родных сувязях. Сямейная медыяцыя – гэта перамовы бакоў з удзелам нейтральнага пасрэдніка з мэтай паляпшэння ўзаемадзеяння паміж бакамі і самастойнага вырашэння імі сітуацыі. Сямейных медыятараў няшмат. Спрэчкі ў гэтай сферы самыя складаныя і самыя эмацыянальныя.

Што датычыць спрэчак, звязаных са скасаваннем шлюбу, то каля 70% зваротаў – гэта накіраванні з суда. Такія спрэчкі датычаць, між іншым, аліментаў, раздзялення маёмасці, парадку адносін з дзецьмі, дачы дазволу на перапрапіску дзяцей, што патрабуе згоды абодвух бацькоў. У паведамленні аб прыёме іску аб скасаванні шлюбу, а таксама на кожным пасяджэнні суд рэкамендуе парам звярнуцца ў працэдуру медыяцыі для абмеркавання пэўных момантаў. Падчас інфармацыйнай сустрэчы спецыяліст "дыягнастуе", ці падлягае дадзеная сітуацыя вырашэнню працэдурай медыяцыі.

Як тлумачыць спадар Мікалай, у класічнай медыяцыі да невырашальных спрэчак адносяцца, напрыклад, выпадкі, калі ў пары выступала насілле. Хаця, на думку эксперта, няма немедыябельных спрэчак, бываюць толькі "недамоваздольныя людзі". У выпадку пар, дзе ёсць насілле, спецыфіка працы іншая, але яна ўжо прымяняецца і дапамагае.

Медыятар адзначае важнасць згаданай інфармацыйнай сустрэчы. Яна не з'яўляецца пачаткам самога працэсу медыяцыі, але ўжо адыгрывае ролю "навучання камунікацыі". Як правіла, дзякуючы інфармацыйнай сустрэчы бакі пачынаюць больш слухаць адзін аднаго, пачынаюць размаўляць, спрэчка становіцца больш зразумелай для іх саміх. Пасля ўдзельнікі вырашаюць, ці вярнуцца ў суд, ці "адысці ў працэдуру медыяцыі". Вельмі частая сітуацыя, калі пасля адной гэтай сустрэчы з медыятарам бакі забіраюць іскі або вырашаюць не разводзіцца.

Паводле слоў спецыяліста, у большасці выпадкаў на нейкім этапе працэсу бакі вяртаюцца да медыяцыі, бо разумеюць, што "ў судзе не ўсё так проста", а медыяцыя дапамагае калі ўжо і разысціся, то "па-чалавечы".

Спадар Мікалай тлумачыць, што падчас працэдуры бакі могуць вырашыць усе спрэчныя пытанні і заключыць медыятыўнае пагадненне, якое мае юрыдычную сілу. Існуе таксама дадатковы бонус для матывацыі бакоў дамаўляцца – вяртанне даволі вялікай дзяржпошліны ў выпадку вырашэння спрэчкі. Як дзеліцца спецыяліст, пасля гэтага новаўвядзення зваротаў стала значна больш. "Калі ў 2015 годзе 15 зваротаў за год было нормай, то цяпер гэта больш за 150 медыяцый, больш за 200 інфармацыйных сустрэч". Людзі хочуць ашчадзіць грошы, але "самае важнае, што ўсё-такі гэтая працэдура працуе". Выканальнасць дамоўленасцей у медыяцыі дасягае 95%, паколькі бакі самі выпрацоўваюць іх. Рашэнні ж судоў выконваюцца толькі на 30%.

### МЭТА СЯМЕЙНАЙ МЕДЫЯЦЫІ

Медыятар не займаецца прымірэннем з мэтай захавання шлюбу, бо ён не спецыяліст у гэтай галіне. Ён дапамагае праясніць нейкія важныя моманты, навучыцца камунікаваць, і калі парам гэта дапаможа працягнуць адносіны, медыятар будзе рады. Працэнт, калі "бакі даюць сабе другі шанс" і застаюцца разам, даволі вялікі – каля 15% ад усіх зваротаў. Гэта датычыць і зваротаў з судовых пасяджэнняў, і тых 30% сітуацый, калі людзі звяртаюцца да медыятара па чыйёсьці рэкамендацыі, не дайшоўшы яшчэ да суда.

У выпадках пазасудовых зваротаў пары могуць прыняць удзел у працэдуры аднаўленчай медыяцыі, звязанай якраз з жаданнем захаваць зносіны. Спадар Мікалай адзначае, што зараз вельмі часта да іх звяртаюцца мужчыны: "Яны выступаюць за тое, каб правесці гэтую працэдуру сумесна з жонкай, пагаварыць, абмеркавайць нейкія рэчы. То-бок, яны супраць скасавання шлюбу".

### ЯК І Ў ЧЫМ ДАПАМАГАЕ МЕДЫЯЦЫЯ

Па словах эксперта, ёсць шмат рэчаў, якія праз суд немагчыма альбо вельмі доўга трэба вырашаць. У медыяцыі ж атрымліваецца знайсці выхад і часта нашмат хутчэй, без складання іскаў, правядзення экспертыз, збору папер і доказаў.

Асаблівасць медыяцыйнага працэсу заключаецца ў тым, што падчас яго бакі вучацца будаваць камунікацыю, з дапамогай якой самастойна прымаюць рашэнне. Дзякуючы гэтаму далейшыя спрэчныя моманты яны таксама вырашаюць самі. Гэта можна назваць самым вялікім навучальным эфектам медыяцыйнага працэсу. Ключавыя навыкі, якія атрымліваюць удзельнікі медыяцыі – гэта ўменне слухаць другога і жаданне разумець. Медыятар яшчэ падчас інфармацыйнай сустрэчы "праграміруе" бакі на тое, што хоць і магчымыя нейкія непрыемныя моманты, усе сабраліся, каб дамовіцца. Аповед адной асобы можа цалкам адрозніваецца ад таго, што раскажа другая, але яна так бачыць гэтую сітуацыю, таму варта спрабаваць яе зразумець, выслухаўшы.

Як разважае спадар Мікалай, у многіх з дзяцінства не было прыкладу нармальнага выслухоўвання і разумення. У выніку "часта бакі ніколі ў жыцці не слухалі больш, чым трэба". У медыяцыі ж, нават калі непрыемна, трэба выслухаць больш. Калі штосьці раздражняе, мы часта можам вешаць ярлык, бо "выслухаць і пачуць другі бок – гэта праца. А працаваць мы незапраграміраваныя. Нам трэба каб сітуацыя была прасцей". Карацей кажучы, гэта прыкладна так: "Дурань". – "Сам дурань".

Такім чынам медыятар вучыць бакі слухаць адзін аднаго і ўсведамляе, што пытанні адной асобы могуць вырашыцца з улікам інтарэсаў другой, і толькі такім шляхам можна дайсці да прымірэння. Атрымліваецца, што з двух гісторый медыятар стварае адну, агульную, якую пара будзе сумесна вырашаць.

У гэтым працэсе роля медыятара заключаецца таксама ў тым, як тлумачыць наш эксперт, каб выявіць сапраўдныя інтарэсы бакоў, скрыты матыў канфлікту. Прыкладам тут можа быць спрэчка аб месцы жыхарства дзіцяці. За жаданнем, каб дзіця жыло з адным з бацькоў, можа хавацца неахвота плаціць аліменты. Іншы прыклад, калі мама не хоча, каб дзіця праводзіла час з татам, і ніяк не тлумачыць прычыны, якімі можа быць і матэрыяльны інтарэс, і нежаданне кантакту дзіцяці з іншай жанчынай. У судзе скрытыя матывы не заўсёды агучваюцца альбо імі не цікавяцца. Спадар Мікалай таксама адзначае, што часам чалавек сам можа іх не разумець. Медыятар жа павінен да іх дакапацца, "пакласці на стол" гэтыя матывы, каб бакі "не саромеліся іх паказаць". Пасля людзі пачынаюць працаваць, каб задаволіць патрэбы абодвух бакоў. Калі такое рашэнне знаходзіцца, удзельнікі медыяцыі яго абмяркоўваюць, а затым яно кладзецца ў аснову медыятыўнага пагаднення.

### НЕ ЗАЎСЁДЫ ПРА РАЗВОД

У гэтым месцы ў кантэксце скрытых інтарэсаў варта ўзгадаць прычыну разводу, якая агучвалася напачатку: няведанне, як заставацца з асобай пасля непрыемнай сітуацыі, пасля расчаравання. Як тлумачыць спадар Мікалай, тут за выражэннем "Я не хачу больш быць з ім!" часта стаіць жаданне схавацца ад болю, з якім не атрымліваецца справіцца іншымі спосабамі.

Часцей за ўсё, як заўважае медыятар, прыходзяць пары, у якіх гаворка ідзе не пра развод, а пра тое, што няправільна будавалася камунікацыя альбо ўзнік канфлікт каштоўнасцей. "Я бачу маркеры адразу. Бываюць сітуацыі, калі людзі сядаюць адзін насупраць аднаго і пачынаюць пытацца: а ты чаму так зрабіў? Тут справа ў адказнасці, якую адзін бок хоча перадаць другому", – гаворыць спадар Мікалай. У такіх выпадках важна, каб бакі атрымалі ад медыятара "інструменты", што прымусяць іх "задумацца, пасядзець, штосьці павырашаць".

Як дзеліцца эксперт, у выпадках, калі гаворка ідзе пра высвятленне супярэчнасцей, ён можа нават даць парам "хатняе заданне" – напісаць, што іх на самой справе не задавальняе ў другой асобе. Калі нейкая рыса сустракаецца ў спісе некалькі разоў, толькі па-рознаму сфармуляваная, ён робіць выснову, што не была задаволена нейкая канкрэтная патрэба. Так, напрыклад, калі адносна мужа жонка піша, што ён "не абаронца", "слабак", значыць, ён некалі яе не абараніў. Пры супольнай або індывідуальнай сустрэчы з кожным з бакоў у такім выпадку можа высветліцца, што ў канфлікце са свякроўю муж не заступіўся за жонку і цяпер яна не ведае, як далей яму давяраць. У такіх сітуацыях прэтэнзія скіравана не да асобы, а да яе дзеяння.

"Там, дзе пра дзеянні, там няма разводу. Вопытны медыятар праводзіць дыягностыку паводзін і стану сужэнцаў і дапамагае ім самастойна разабрацца. То-бок, проста дае «інструменты», у тым ліку па неканфліктных зносінах. І гэты механізм заразлівы. Далей бакі ўжо пачынаюць самі абмяркоўваць праблемы, пачынаюць дамаўляцца", – падагульняе спадар Мікалай.

---

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як дапамагчы чалавеку, які злоўжывае алкаголем?

grodnensis.by

*Чалавек, які злоўжывае алкаголем і не збіраецца спыняцца, прыцягвае да сябе смяротную хваробу. Алкаголь не з'яўляецца вырашэннем уласных жыццёвых цяжкасцей. Злоўжыванне ім – гэта хвароба, якая кардынальна змяняе становішча чалавека. Падчас захворвання такія людзі сутыкаюцца з дзвюма істотнымі праблемамі: з негатыўнай, крызіснай жыццёвай сітуацыяй і з жаданнем справіцца з усімі наступствамі алкагалізму.*

*Адзіная магчымасць справіцца з залежнасцю – поўнае ўстрыманне на ўсё астатняе жыццё. Большасць алкаголікаў не могуць прыняць рашэнне адмовіцца ад спіртных напояў назаўжды. Таму ім неабходна духоўная дапамога спецыяліста (гэтай праблемай займаюцца разнастайныя арганізацыі і клубы ананімных алкаголікаў), а таксама дапамога з боку родных і сяброў. У такіх сітуацыях іншы бок павінен спачатку ўважліва азнаёміцца з генезісам злоўжывання алкаголем, механізмамі залежнасці і ўсімі наступствамі захворвання.*

*У лячэнні алкагалізму ёсць тры асновы. Па-першае, бяспечным прытулкам у выратаванні з'яўляецца сям'я, дзе залежны мае свае абавязкі, хобі або штосьці іншае. Па-другое, алкаголік павінен адарвацца ад асяроддзя, якое падахвочвае яго піць: калі гэта працоўнае асяроддзе, то трэба змяняць працу, калі суседства – пераязджаць. І, нарэшце, апошні падмурак – гэта духоўнае жыццё, дзе больш часу трэба надаваць малітве, быць на Імшы і прыступаць да св. Камуніі, а таксама часта спавядацца. Для такіх людзей асабліва важнае ўмацаванне духоўнага жыцця, якое дае сілы для ўмацавання свайго "я". Гэта цяжкі і доўгі шлях, але іншага выйсця няма.*

*Дапамогай алкаголіку можа быць і клінічная рэабілітацыя або, калі яе няма па месцы жыхарства, агульная клініка. У Гродне і іншых гарадах рэгіёна дзейнічаюць групы АА, што азначае "Ананімныя Алкаголікі". Дапамогай і парадай, духоўнай і малітоўнай падтрымкай служыць і Каталіцкі Касцёл, ствараючы арганізацыі і асацыяцыі, дзе галоўнай мэтай з'яўляецца дапамога алкаголікам, падтрымка іх у цвярозасці.*

*Асаблівая нагода для малітвы аб цвярозасці нацыі – жнівень, а таксама перыяд Адвэнту і Вялікага посту. Выхаванне ў цвярозасці вельмі важнае, таму што алкаголь і алкагалізм руйнуюць асобу чалавека і яго сям'ю, прыводзяць да грахоў, злачынстваў, няшчасных выпадкаў і іншай небяспекі.*

*Ян Павел II падчас Яснагорскага апэлю ў 1987 годзе падкрэсліваў, што ў барацьбе за цвярозасць трэба смела ісці супраць цячэння: супраць цячэння сацыяльнай звычкі і неглыбокага меркавання, супраць цячэння чалавечай слабасці, супраць цячэння памылковага разумення "свабоды"! Няхай гэтыя словы стануць для нас арыенцірам!*

# СВОЙ СЯРОД СВЯТЫХ




працяг са с. 1

**Заслугі нашага святога земляка настолькі значныя, што яго парэшткі захоўваюцца ў галоўнай святыні каталіцкага свету – Ватыканскай базіліцы св. Пятра. 12 лістапада ўспамінаем св. Язафата Кунцэвіча, былога арцыбіскупа Полацкага і галоўнага заступніка Віцебскай дыяцэзіі. "Ватыканская базіліка такая вялізная, што зарыентавацца там без адпаведнай мапы немагчыма. Нават з ёй мне спатрэбілася дапамога ахоўнікаў, каб нарэшце трапіць да месца спачыну св. Язафата", – дзеліцца гродзенка Алена Поцька. Два гады таму яна пераехала ў Італію і прызнаецца, што памаліцца каля рэліквій беларускага святога было яе даўняй марай. Чым св. Язафат так захапіў верніцу?**

Ангеліна Марцішэўская

Служэнне святога прыйшлося на часы рэлігійнага канфлікту, які быў звязаны з абвяшчэннем у 1596 годзе уніі – аб'яднання Праваслаўнай Царквы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з Каталіцкім Касцёлам. Св. Язафат быў заўзятым прыхільнікам уніі – бачыў у ёй шанс на страчаную цэласнасць паслядоўнікаў Хрыста. Навучаючы катэхізісу, ён адначасова клапаціўся пра тое, каб у праваслаўных літургічных абрадах не ўводзілася ніякіх змен. Інакш кажучы, клопат пра адзінства хрысціян ён спалучаў з пашанай да канфесіянальных адрозненняў. ***"Св. Язафат з'яўляецца для мяне прыкладам сапраўднай любові. Ён меў праведную мэту, але не лічыў, што гэта дае яму права ўзвысіцца над другім чалавекам. Наадварот: сам аддаў жыццё, каб адстаяць адзінства"***, – дадае Алена.

Сапраўды, адпраўляючыся ў прапаведніцкую паездку ў Віцебск, Кунцэвіч папрасіў падрыхтаваць яму магілу ў Полацку: адчуваў, што патрэбна будзе ахвяра. Падчас народнага хвалявання ён выйшаў да натоўпу, каб словам і малітвай абвяшчаць адзінства. У момант выступлення арцыбіскупа схапілі і жорстка забілі.

***"Падышоўшы да рэліквій св. Язафата, я пачала плакаць ад радасці – нібы спаткала роднага чалавека ў Італіі. Перада мной прадстаў зборны вобраз Радзімы ў выглядзе моцічаў беларускага святога. Даверыла яго заступніцтву нашу краіну. І яшчэ адчула вялікі гонар за тое, што ён тут спачывае"***, – распавядае верніца.

А ганарыцца ёсць шмат чым. Пры жыцці Кунцэвіч быў чалавекам цалкам адданым бліжняму. Запасы прадуктаў раздаваў бедным, хоць у той самы час браў пазыку для патрэб свайго дома. Служыў крыніцай суцяшэння кожнаму, хто меў такую патрэбу, незалежна ад поглядаў асобы, тым самым прывёўшы да веры шмат людзей. Быў добра адукаваны і клапаціўся пра развіццё сваіх субратоў. Ніколі не ўзначальваў Літургію, не паспавядаўшыся. І ўсё ў духу адрачэння ад самога сябе: практыкаваў аскезу, насычы пад сутанай валасяніцу.

***"У Італіі культ мясцовых святых – асобная гісторыя. Дзень успаміну святога заўсёды ператвараецца ў свята з працэсіяй з яго вялікай фігурай і салютам. Святыя ўспрымаюцца як члены сям'і, і нават няверуючы чалавек падчас фэсту не можа ўстаяць, каб не зайсці ў касцёл і не даверыцца нябеснаму заступніку. Тут я зразумела, што развіццё культу святых сваіх зямель вельмі важнае. Па-першае, гэта духоўна ўзбагачае народ, бо прыклад веры становіцца больш зразумелым і відавочным. Па-другое, асабліва тут, у замежжы, я адчула, што зямляк – гэта заўсёды родны чалавек. А калі прасіць аб дапамозе блізкага чалавека, ён усё зробіць для цябе"***, – падсумоўвае Алена.

Аднойчы з амбоны давялося пачуць, што святым крыўдна, калі мы пра іх не ўспамінаем. Св. Язафат Кунцэвіч толькі адзін з многіх беларусаў, вынесеных да хвалы алтара. Не забывайма-ся маліцца праз іх заступніцтва!



Сяргей Раюнец

# ЮРА

Сваё хрысціянскае жыццё ў Каталіцкім Касцёле я пачаў 12 лістапада 2000 года. Сусед Юра запрасіў мяне ў падарожжа ў Віцебск і Полацк. У маім жыцці было не так шмат падарожжаў, таму з задавальненнем паехаў. І аказалася, што гэта была не проста паездка, а пілігрымка грэка-католікаў на свята св. Язафата Кунцэвіча. Цудоўна!

Пасля пілігрымкі я стаў хадзіць на службы. І, пабачыўшы, што мне цікава ў Касцёле, Юра сказаў: "Зробім з цябе скаўта!". Я стаў Акелам і займаўся ваўчанятамі. Так жыццё і пацякло: мы з Юрам разам ездзілі ў касцёл, прыслужвалі, наведвалі розныя мерапрыемствы, хадзілі на хор. Гэта быў вельмі насычаны і цікавы час.

Юра старэйшы за мяне гадоў на 10, але так супала, што ажаніліся мы ў адзін год. Пасля ў яго з'явіўся сын Антоній, у мяне – сын Марк, пазней у яго нарадзіўся яшчэ адзін сын – Ігнат. Разам з жонкай я стаў хадзіць да рыма-католікаў (гэта бліжэй, і дзяцей там больш). Нашы дарогі пачалі разыходзіцца, але гэта не перашкаджала ведаць, што дзесьці ёсць Юра.

А 13 кастрычніка яго не стала. Кавід. Як веруючы чалавек я стараюся разважаць у хрысціянскім ключы: цела памірае, душа – не, мы яшчэ сустрэнемся. Але ўсё адно мне шкада і вельмі сумна, што Юры больш няма побач. Ён быў чалавекам вельмі добрым і клапатлівым. Каля такога грэецца сэрца. Умеў спачуваць, адгукацца на просьбы і заўважаць іншага.

Юра пайшоў і засталася яго жонка Таня з двума дзеткамі: старэйшаму амаль 5, малодшаму 1,5. Таня зараз у дэкрэце, і раптоўна на яе звалілася адказнасць за ўсё. Зараз яна мусіць думаць, напрыклад, аб тым, як самой вырасціць дзетак, да таго ж – у веры ў добрага Бога. Або аб тым, як заплаціць за здымную кватэру. Ці аб тым, як утрымаць надзею ў сабе і дзецях, што іх муж і тата пайшоў да Айца і яны яшчэ сустрэнуцца. Гэта вельмі складаная сітуацыя.

Я задаю сабе пытанне: ці ёсць у гэтым надзея? І спрабую даrasці да адказу, што заўсёды надзея для кожнага з нас – Хрыстос. Гэта той Хрыстос, які заклікае любіць Бога і бліжняга як кажа: "Ідзі, і ты рабі гэтаксама". Я стараюся не журыцца і дапамагаць па меры магчымасцей, выконваючы запаведзі і ствараючы ў сабе ўнутраны дыялог з Юрам, які адышоў да Айца.

Дзякуй, Юра! Маё падарожжа ў веры 21 год таму пачалося менавіта праз цябе. І мы доўга крочылі разам, за што я таксама вельмі ўдзячны.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*7 лістапада – XXXII Звычайная нядзеля*
*Мк 12, 38–44*

Езус, навучаючы тлумы, казаў ім: "Асцерагайцеся кніжнікаў, якія любяць хадзіць у доўгіх шатах, і любяць прывітанні на рынках, і першыя лавы ў сінагогах, і першыя месцы на гасцінах. Тыя, хто аб'ядае дамы ўдоў і доўга моліцца напаказ, атрымаюць найцяжэйшы прысуд".

Сеўшы насупраць скарбонкі, Езус назіраў, як людзі кідалі грошы ў скарбонку. Многія багатыя кідалі памногу. І прыйшла адна бедная ўдава, і ўкінула дзве лепты, што складае чвэрць аса. Паклікаўшы вучняў сваіх, Езус сказаў ім: "Сапраўды кажу вам, што гэтая бедная ўдава ўкінула больш за ўсіх, хто кідаў у скарбонку. Бо ўсе кідалі, маючы лішак, а яна, будучы ў нястачы сваёй, укінула ўсё, што мела, увесь пажытак свой".

### Паверыць да канца

*Бедная ўдава, якую Езус ставіць у цэнтр Евангелля, зрабіла значна больш, чым іншыя. Яна не ўкінула ў скарбонку больш за астатніх, па колькасці нават менш, але пры гэтым кінула ўсё, таму што гэта была ўся яе маёмасць. Яна ўсё паставіла на адну карту: аддала Богу сябе, свой лёс, аддала ўсё, што мела, пад Яго абарону. Менавіта такое стаўленне захапіла Езуса.*

*Гэтая звычайная жанчына нікім не прыкідвалася, не адыгрывала ролю, не была кімсьці іншым. Яна не саромелася сваёй беднасці і гэтым жэстам прысвяціла Богу сваю сучаснасць і будучыню. Удава не чакала пахвалы за свой гераічны ўчынак – калі б Езус не паказаў на яе, ніхто б пра яе ніколі не даведаўся.*

*Перад Богам не патрэбны маскі, не трэба адыгрываць ні камедыі, ні драмы. Ён глядзіць глыбей: не толькі на тое, што бачна вачам, але на душу. Бог ведае, з чым я прыходжу, і чакае аднаго: што перад Ім я буду сабой, са сваімі найвялікшымі цнотамі і недахопамі, са сваім інтэлектуальным багаццем, талентамі, ведамі, а таксама са сваёй беднасцю, грахом і прыніжэннем.*

*Варта даверыцца Богу, цалкам аддаць сябе Яму. Варта даручыць сябе Яго Провіду. Бо Госпад "хлебам корміць галоднага, падтрымлівае сірату і ўдаву". Бог чувае, апекуецца і нічога ў нас не адбірае – наадварот, дае нам шмат, і тое, што дае, нават калі цяжкае, з'яўляецца добрым.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне ахвяраваць Табе ўсё маё жыццё, маю сучаснасць і маю будучыню!*

*14 лістапада – XXXIII Звычайная нядзеля*
*Мк 13, 24–32*

Езус сказаў сваім вучням: "У тыя дні пасля таго ўціску зацьміцца сонца, і месяц не дасць святла свайго. І зоркі будуць падаць з неба, і сілы нябесныя пахіснуцца. Тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці на аблоках з вялікай сілай і ў славе. Ён пашле тады Анёлаў сваіх і збярэ выбраных сваіх ад чатырох вятроў, ад краю зямлі да краю неба. Вучыцеся на прыкладзе смакоўніцы: калі галінка яе становіцца ўжо мяккай і распускаецца лісце, ведаеце, што блізка лета. Так і вы, калі ўбачыце, што адбываецца гэта, ведайце, што блізка Ён, пры дзвярах. Сапраўды кажу вам: не міне пакаленне гэтае, пакуль не адбудзецца ўсё гэта. Неба і зямля праміnуць, а словы Мае не праміnуць. А пра дзень той або гадзіну ніхто не ведае: ні Анёлы ў небе, ні Сын, а толькі Айцец".

### Чуваць і выконваць Божую волю

*Адкрытасць і чаканне – гэта якасці, якім мы павінны вучыцца зноў і зноў, каб быць гатовымі да прыходу Месіі. Выконваючы свае штодзённыя задачы, мусім чакаць прыйсця добрага Пана, які дае нам добрае і вучыць, як не змарнаваць свабоду, але правільна яе выкарыстоўваць. Ён любіць свой люд, таму што для нас стварыў свет і даў нам удзел у яго ўладкаванні.*

*Такім чынам, мусім нанова прызнаць Хрыста Госпадам – згадзіцца на тое, каб Яго воля была на першым месцы. Мы павінны кіравацца Божай мудрасцю ў сваіх дзеяннях, усведамляючы, што толькі Ён можа зрабіць наша жыццё шчаслівым і прыгожым.*

*Той, хто прыняў словы Езуса і спазнаў Яго любоў, можа з надзеяй і тугой чакаць Яго другога прыйсця, бо ведае, што гэта будзе сустрэча з добрым Панам. Такое сведчанне даў на пачатку ІІ стагоддзя св. Палікарп, які перад абліччам мучаніцкай смерці, якая яго чакала, калі перад рымскім суддзёй не адмовіцца ад Езуса, сказаў: "Я служу Яму ўжо 86 гадоў, і Ён нічога дрэннага мне не зрабіў, наадварот, адорваў дабрадзействамі".*

*Давайце чуваць, выконваючы ў сваім жыцці Яго волю. Давайце слухаць Яго і карыстацца Яго мудрасцю! Няхай словы Езуса і дары Святога Духа ўмацоўваюць нашы сэрцы, каб мы былі гатовыя да дня Яго канчатковага прыйсця.*

*Пане Езу Хрысце, навучы мяне кіравацца Тваёю мудрасцю ў сваіх учынках, бо толькі Ты можаш зрабіць мяне шчаслівым!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем Божага блаславлення на святарскім шляху, дароў Святога Духа для аддананай службы Богу і людзям, няспыннай апекі Панны Марыі, стойкасці ў штодзённай працы, надзеі ў сэрцы, моцнага здароўя і зычлівых людзей навокал.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дудаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТОЛЬДУ ЧУРГАНУ

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, сіл, шчасця, радасці, стойкасці ў святарскай паслузе, добрых і зычлівых людзей побач, Божага блаславлення і апекі Панны Марыі. Шчасці Божа!*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Юрацішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, святлом і радасцю, а Маці Божая заўсёды дапамагае, вядзе найлепшай сцежкай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.*

*З малітвай і павагай парафіяне з капліцы Вінцукі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарскага пасвячэння ад шчырага сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці, шчасця, моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дзень прыносіць толькі добрыя навіны, трывогі і смутак не закранаюць сэрца, паслуга будзе доўгай, а міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае за яе. Няхай Маці Божая, якая дарычыла свайго Сына ў Вашы рукі, заўсёды абараняе сваёй мацярынскай любоўю, а Езус блаславляе Вашу святарскую паслугу.*

*З малітвай і павагай вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ КУЗЬМІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: патрэбных сіл, супакою ў сэрцы, Божай дапамогі ва ўсіх ініцыятывах. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае дапамога Святога Духа і апека Маці Божай, а добры Езус няхай валадарыць у Вашым святарскім сэрцы і адорвае патрэбнымі ласкамі. Дзякуем Вашай маме за сына святара.*

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка", моладзь і парафіяне з Новага Двара*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ АЛЯКСАНДРУ МАЦКЕВІЧУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, Божай апекі і дапамогі, людской добразычлівасці і цудоўнага плёну на ніве, на якую Вас паслаў Бог. Няхай Святы Дух напаўняе Вас патрэбнымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік маюць у сваёй апецы.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ КУДЭРКУ

*з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, шмат Божых ласкаў, добразычлівых людзей, заўсёды гатовых прыйсці на дапамогу, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай добры Бог і Найсвяцейшая Маці дадуць Вам усё, што неабходна.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІТОЛЬДУ ЛАЗАВІЦКАМУ

*з нагоды імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Бог штодзённа адорвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна апекуюцца.*

*Былыя парафіяне з Галавенчыцаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, супакою, радасці, здзяйснення ўсіх мар, стойкасці на святарскім шляху. Няхай Ваша сэрца надалей застаецца добрым і адкрытым для Бога і людзей. Няхай кожны дзень прыносіць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а агеньчык дабрыні, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць на працягу ўсяго жыцця. Няхай Усемагутны за ўсё Вас узнагародзіць.*

*Парафіяне касцёла св. Юрыя ў Варнянах і капліцы св. Філамены ў Вароне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ БРАЗІНСКАМУ

*з нагоды 5-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл, аптымізму, душэўнага супакою, шчодрых дароў Святога Духа і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх далонях, блаславляе кожны ваш дзень, а Маці Божая клапатліва атуляе сваёй апекай. Шчыра дзякуем за абраную Вамі дарогу, за паслугу ў сакраментах, за кожную добрую справу і за час, прысвечаны нам.*

*Літургічная служба алтара парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РАДЗЮКУ

*з нагоды 17-ай гадавіны святарскага пасвячэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, здзяйснення мар, запалу ў працы, сіл і стойкасці на выбраным шляху, а таксама нястомнай радасці. Няхай добры Бог блаславляе Вас кожны дзень, Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя моцна трымае за руку і з мацярынскай любоўю вядзе па жыцці.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, душэўнага супакою, моцнай веры, аптымізму і шмат радасці ў святарскай паслузе. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае Божая любоў, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна чувае над Вамі.*

*Вернікі з Раготна*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, апекі Маці Божай, стойкасці ў пакліканні, моцы Святога Духа ў працы, непахіснай надзеі, душэўнага супакою, усмешкі, Божай радасці, а таксама прыгожага і шчодрага плёну на ніве, на якую Вас паслаў Бог.*

*Вернікі капліцы Сураж*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ БРАЗІНСКАМУ

*з нагоды 5-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і радасцю ў душпастырскай паслузе. Шчыра дзякуем за мудрыя навукі і імкненне наблізіць нас да Бога. Молімся, любім, паважаем і ганарымся Вамі!*

*Удзельніцы руху "Маці ў малітве"*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Імшы на беларускай мове ў Маскве збіраюць усё больш удзельнікаў. Вернікі звычайна моляцца ў капліцы францішканскага кляштара. Падчас апошняй св. Імшы беларускія каталікі расійскай сталіцы разважалі над Евангеллем паводле Марка пра аздараўленне сляпога Бартымэя. Актуальныя падзеі ў свеце і на Бацькаўшчыне паказваюць, куды вядзе слепата: не фізічная, а духоўная. Чалавеку без сустрэчы з Хрыстом не ўдасца аздаравіцца ад духоўнай слепаты, каб супрацьстаяць спакусам улады, узбагачэння, цялесных задавальненняў. Гісторыя Бартымэя – гэта прыклад галоўнай сустрэчы ў жыцці для кожнага з нас: не варта яе адкладаць на іншы, "больш зручны" час. Не трэба таксама звяртаць увагу на меркаванні іншых і паддавацца страху перамен. На заканчэнне св. Імшы ўдзельнікі ўзнеслі малітву за Беларусь.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

С. Наталля Дрэмо, палатынка з Воранава, адзначае, што ў штодзённасці патрэбен адпачынак. І манахіня адпачывае падчас пляцення ружанцаў – гэта яе хобі. Кожны створаны ўласнаручна ружанец для сястры не проста штучны выраб. Калі нейкі чалавек просіць зрабіць ружанец, то яна, плетучы кожную "ружу", моліцца за гэтую асобу. Калі робіш такі ружанец, у ім змяшчаецца акурат 33 рухі, якія сімвалізуюць колькасць гадоў знаходжання на зямлі Езуса. Ружанец робіцца з сутажу – шчыльнага, плоскага шнура, падзеленага на дзве часткі. Кожная з іх аплецена каляровай або металізаванай ніткай. Абедзве часткі падзелены "жалабком". Пасля шнура падбіраецца крыжык і распачынаецца праца. Каб зрабіць адзін ружанец, патрэбна каля трох гадзін. Хобі манахіні налічвае ўжо больш за сто ружанцаў.




**беларуская рэдакцыя**

Беларуская версія Ватыканскага інтэрнэт-радыё ўжо ў эфіры. Анлайн-трансляцыя даступна як на сайце Vatican News, так і ў аплеце Radio Vaticana для смартфонаў на IOS і Android. Апрача навін і рубрык Беларускай рэдакцыі, у праграме штодзённа будзе Імша, Літургія гадзін і Ружанец на лацінскай мове, шмат класічнай музыкі.

"З'яўленне беларускай версіі Ватыканскага інтэрнэт-радыё – гэта яшчэ адна магчымасць камунікацыі з нашай аўдыторыяй. Многія сочаць за навінамі з Ватыкана па-беларуску на старонцы Vatican News, шмат хто слухае аўдыяверсію беларускай праграмы на хвалях Радыё Марыя і Радыё Рацыя, у інтэрнэце, на кароткіх хвалях і праз спадарожнік. Цяпер зроблены наступны крок", – адзначае кс. Аляксандр Амяльчэня, кіраўнік Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё і Vatican News.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Палатын (Таварыства каталіцкага апостальства) Максім Боландзь з Ліды прыняў пасвячэнне дыяканату. Урачыстасць адбылася ў семінарыйнай капліцы ў Алтажаве (Польшча). Пасвячэнне ўдзяліў ардынарый Эльблангскай дыяцэзіі біскуп Яцэк Езерскі. Сярод прысутных на ўрачыстай Імшы святароў былі пробашчы кандыдатаў да пасвячэння і ксяндзы палатыны, якія служаць у Беларусі.

Дыяканат з'яўляецца пастаянным структурай у Касцёле, а пасля ІІ Ватыканскага Сабору перажывае сваё адраджэнне ў форме сталага дыяканату, пасвячэнне якога прымаецца як канчатковае. Біскуп дадаў, што неабходнай рысай жыцця і функцыянавання дыяканата павінна быць даступнасць.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4124; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.